БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ

Belarusian Collegium

# HOMO HISTORICUS 2016

## The Annual of Anthropological History

Edited by Aliaksandr Smalianchuk,
Doctor in History

БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ

Беларускі калегіум

# HOMO HISTORICUS 2016

## Гадавік антрапалагічнай гісторыі

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук Аляксандра Смаленчука

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

Рэдактар
доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Захар Шыбека, Універсітэт у Тэль-Авіве;
доктар Рымантас Мікніс, Інстытут гісторыі Літвы (Вільня);
доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч, Варшаўскі ўніверсітэт;
доктар хабілітаваны Ганна Энгелькінг, Інстытут славістыкі
Польскай акадэміі навук (Варшава)

**Homo Historicus 2016.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад. рэд. Аляксандра Смаленчука. – Вільня: Беларускі калегіум, 2016. – 222 с.

*Homo Historicus 2016* працягвае традыцыі трох першых тамоў (2008, 2009 і 2012 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Большасць апублікаваных матэрыялаў датычыць феномену памяці ў самым шырокім яго разуменні.

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

# ПОСПЕХІ І ПРАБЛЕМЫ ВУСНАЙ ГІСТОРЫІ Ў ПОЛЬШЧЫ[1]

***Марта Куркоўска-Будзан***
*др хаб. (Кракаў)*

## *Summary*

Oral history in most of the countries of Central and Eastern Europe was initiated in the 1980s in the twentieth century in the circles of dissidents. Memories of the politically marginalized or persecuted citizens were the source of insights into uncensored versions of recent past. Therefore the term "a witness to history" is central to the "civic historiography", which has been developed in Poland.

The article presents epistemological and ethical paradoxes of the concept of "a witness of history" in the light of social and linguistic practice, as well as its historiographical and political usage. Examples of major oral history projects actively present in the public space and state and public institutions influencing oral history practice in Poland are presented.

Калі ў 60-я гг. XX ст. у краінах Заходняй Еўропы шырылася папулярнасць *oral history*, з іншага боку "жалезнай заслоны" таксама пачалі казаць пра магчымасць выкарыстання гісторыкамі г. зв. "выкліканых крыніцаў" (Krystyna Kersten). Прызнаная даследчыца найноўшай гісторыі Польшчы прафесар Крыстына Кэрстэн прапанавала тым, хто імкнуўся пашырыць свой даследчыцкі інструментарый, карыстацца метадамі сацыялогіі: *"Гісторык [...], збіраючы сведчанні людзей, якія без ягонай ініцыятывы наогул не прамовілі б і не пакінулі слядоў уласнай актыўнасці, не можа абстрагавацца ад спецыяльнага набору даследчыцкіх*

*метадаў і сродкаў сацыялогіі. У адваротным выпадку ён будзе нагадваць халупніка, які працуе побач з сучаснай фабрыкай"*[2].

Гэты заклік да пашырэння межаў навуковага пазнання не быў звязаны з этычнымі пастулатамі, якія адчуваліся ў схільнай да марксізму *history from below*[3] (Marta Kurkowska-Budzan). Да 1989 г. ні ў Польшчы, ні ў іншых "братніх" краінах спробы гісторыкаў карыстацца вуснымі ўспамінамі (напрыклад, збіраючы ўспаміны ветэранаў Другой сусветнай вайны) ніяк не былі звязаныя з ідэямі, якія паспрыялі развіццю *oral history* на Захадзе.

У прыведзенай цытаце К. Кэрстэн прысутнічала слова, якое можа сімвалізаваць дамінуючую сёння ў Польшчы (прынамсі, на ўзроўні шырокага функцыянавання ў грамадстве) версію *oral history*. Ягоная прысутнасць у тэксце, які прэзентаваў акадэмічныя імкненні мадэрністаў да эпістэмалагічнага ўмацавання гістарычных даследаванняў і быў напісаны вядомай даследчыцай, мела для гэтай сімволікі вялікае значэнне. Гэтае слова – "сведчанне" – абумовіла пазнейшае з'яўленне ключавога паняцця польскай вуснай гісторыі – "сведка гісторыі".

Пачатак *oral history* у краінах Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў 80-я гг. XX ст. быў звязаны з ініцыятывай апазіцыйных колаў па зборы ўспамінаў асобаў, што былі выдаленыя на перыферыю палітычнага жыцця або пераследаваліся камуністычнымі ўладамі. Гэтыя ўспаміны знаходзіліся ў канфлікце з афіцыйнай версіяй гісторыі[4]. Пасля заняпаду камунізму гэты накірунак грамадскай актыўнасці ператварыўся ў дзейнасць па архівізацыі, адукацыі і працягу даследаванняў, якія сталі акрэсліваццa як "вусная гісторыя".

Такі генезіс паўплываў на спецыфіку цэнтральна-еўрапейскай *oral history*, на што звярнула ўвагу Даброхна Калва (Dobrochna Kałwa): *"У выніку вусная гісторыя ў гэтым рэгіёне ад пачатку была палітычнай гісторыяй, паколькі пастулат надання права голасу групам "ізгояў" – адзін з падмуркаў вуснай гісторыі – азначаў, у адрозненне ад краінаў заходняй дэмакратыі, магчымасць выказацца прадстаўнікам палітычнай, інтэлектуальнай і культурнай эліты, якія былі рэпрэсаваныя, маргіналізаваныя і выключаныя з дамінуючага дыскурсу"*[5].

Амерыканскі гісторык Майкл Фрыш (Michael Frisch) у 1990 г. вылучаў у вуснай гісторыі накірункі *more history* ("больш гісторыі") і *anti-history* (антыгісторыя)[6]. Для першага з іх мерай каштоўнасці вуснай інфармацыі з'яўляўся яе ўнёсак у пашырэнне нашых ведаў пра мінулае. Даследчык знаходзіў "больш гісторыі", упарадкоўваў веды. Пры такім падыходзе *oral history* мела перш за ўсё эпістэмалагічнае вымярэнне і адпавядала класічнай або мадэрністычнай мадэлі гістарыяграфіі.

Для другога накірунку вуснай гісторыі, паводле М. Фрыша, быў характэрны зварот увагі галоўным чынам на працэс стварэння вусных успамінаў ад моманту першага кантакту з суразмоўцам да публікацыі вынікаў даследавання. Гэтая гісторыя фарміравалася пад уплывам этычнага імператыву, і гэтае вымярэнне было для яе вызначальным. На першым плане аказаўся пастулат аднаўлення справядлівасці шляхам прадстаўлення слова прайграўшым, непрывілеяваным, маргіналізаваным, забытым і выключаным з жыцця.

У выпадку вуснай гісторыі ў Польшчы класіфікацыя М. Фрыша не спраўджваецца. Нягледзячы на блізкасць тэрмінаў, якія ўжываюцца падчас розных апісанняў польскай вуснай гісторыі (напр., "контргісторыя" або "антыгісторыя", "выключэнне" ды інш.), сярод даследчыкаў Польшчы відавочнае імкненне да пастаяннага злучэння этычных і эпістэмалагічных пастулатаў. Вусная гісторыя павінна заставацца "навучаннем гісторыі". Падмуркам такога падыходу з'яўляецца нашая прыхільнасць да ўзору гістарыяграфіі паводле катэгорыі "праўды" Арыстоцеля. Гэтая гістарыяграфія зыходзіць з магчымасці пазнання мінулага шляхам адпаведнага і належным чынам выкарыстанага даследчыцкага інструментарыя.

Як выглядае гэтае спалучэнне эпістэмалагічнага і этычнага ў вуснай гісторыі ў Польшчы? Адказ трэба шукаць у семантычным полі ключавога для гэтай навуковай дысцыпліны паняцця – "сведка гісторыі". Перш за ўсё "сведка" ў польскай мове функцыянуе ў кантэксце аднаўлення справядлівасці. У другім значэнні "сведка" выступае як "асоба, прысутная пры нейкім здарэнні, якая можа распавесці пра тое, што бачыла; як сведка здарэння, выпадку"[7].

На мой погляд, паняцце "сведка гісторыі" яднае гэтыя значэнні дзякуючы той вазе, што надаецца грамадскасцю працэдуры выяўлення гістарычных фактаў, якая нагадвае судовы працэс. Аднак, у адрозненне ад судовага сведкі, верагоднасць "сведкі гісторыі" падаецца значна большай. "Сведка гісторыі" і ягонае "сведчанне" таксама маюць больш высокі эпістэмалагічны статус, чым інфарматар і яго паведамленне. "Сведчанне" выступае як паказчык дакладнасці і праўдзівасці. Само слова "сведчанне" ўспрымаецца з большай павагай, чым "інфармацыя". На пачатку польскай *oral history* "сведчанні" выкарыстоўваліся супраць афіцыяльнай гістарыяграфіі, якая абслугоўвала таталітарны рэжым ці, прынамсі, прымалася ім і лічылася – моўчкі або галасна – фальсіфікаванай.

Тэарэтычна вуснагістарычныя "сведчанні" знаходзяцца ў адным шэрагу з іншымі гістарычнымі крыніцамі і павінны падлягаць крытыцы, якая з'яўляецца нормай класічнай гістарыяграфіі. Але з улікам пэўнага культурнага кантэксту такая крытыка становіцца маральна недарэчнай. "Сведкамі гісторыі" ў *oral history* становяцца шляхам свайго роду намінацыі як пэўнай маральнай кам-

пенсацыяй за забыццё, замоўчванне і праслед з боку ранейшай або афіцыйнай гістарыяграфіі, якія не абавязкова павінны быць ідэнтычнымі.

*"Сведкі гісторыі – гэта героі нашага часу"*[8], гэта асобы, да якіх ставяцца з павагай і ўздымаюць на пэўны маральны п'едэстал, бо яны былі ахвярамі войнаў, рэжымаў і г. д. Адпаведна, яны звычайна маюць сталы ўзрост і належаць да адыходзячага, а значыць, асабліва каштоўнага пакалення. Мы звяртаемся да чарговых шэрагаў "сведкаў", каб яны апавядалі наступным пакаленням пра мінулае. Усё гэта грунтуецца на ўяўленні пра выхаваўчую ролю гісторыі. У этычнай прасторы шматлікіх праектаў вуснай гісторыі, незалежна ад таго, ці гэта праекты навуковыя і дакументальныя, ці праекты папулярызатарскія, "сведка гісторыі" застаецца стрыжнем усёй справы.

Калі звернем увагу на дзейнасць па выяўленні і стварэнні гістарычных дакументаў у Польшчы такімі вялікімі цэнтрамі, як "Karta" (Варшава), і шматлікімі іншымі, то ўбачым, што яны тэматычна, храналагічна і геаграфічна ахопліваюць усе значныя палітычныя і сацыяльныя падзеі, якія мелі месца ў Польшчы і сярод палякаў або найбольш іх закранулі. Узнікаюць архівы вуснай гісторыі, хуткімі тэмпамі павялічваецца колькасць гадзін аўдыё- і відэаматэрыялаў, што захоўваюцца ў розных месцах. Карыстаюцца папулярнасцю адукацыйныя конкурсы і праекты, якія рэалізуюцца школамі і культурніцкімі арганізацыямі. Іх агульная тэматыка і праблематыка, пазначаныя ў анкетах для інтэрв'ю, сведчаць пра тое, што найбольш цікавіць аўтараў праектаў і на што інтэрв'юер павінен звяртаць увагу ў першую чаргу. Гэта такія "лекцыі гісторыі", як, напрыклад, Другая сусветная вайна, высылка ў Сібір, Халакост, апазіцыя ў Польскай Народнай Рэспубліцы, штодзённае жыццё ў розныя перыяды найноўшай гісторыі Польшчы ды інш.

Аднак "сведка гісторыі", як галоўны герой такога праекту, не з'яўляецца цалкам адказным за свае ўспаміны. Вызначаць, што ён бачыў або перажыў і што ён засведчыў, будзе нехта іншы. "Якія абавязкі Вы выконвалі, калі былі сувязной у Паўстанні?", "Ці памятаеце першы дзень пасля вайны?" – гісторык, які задае такога тыпу пытанні, найперш хоча высветліць версіі "сведкі" наконт падзеяў або фрагментаў падзеяў з ужо вызначанага гільдыяй гісторыкаў кола таго, што называем "гістарычнымі фактамі". Напрыклад, паведамленне "сведкі гісторыі", які ўпэўнены, што перажыў тры сусветныя вайны, фіксуецца ў інфармацыйнай карце інтэрв'ю адпаведна агульнапрынятым гістарычным ведам.

З іншага боку, як ужо адзначалася, у тым самым накірунку *oral history* існуе вера ў патэнцыял адкрыцця новых фактаў пры дапамозе сведкаў. Фактычна гэта вера ў існаванне канала трансляцыі інфармацыі з мінулага ў сучаснае, з пазамоўнага вопыту ў вербальны пераказ паводле схемы: падзея/вопыт – фік-

сацыя ў памяці – аднаўленне – моўнае апісанне. Аднак насуперак гэтай веры ў эпістэмалагічным полі такога тыпу гісторыі "сведка" будзе з'яўляцца элементам другога плана, падпарадкаваным існуючым гістарычным ведам. У якасці прыкладу можна прыгадаць праграму па вуснай гісторыі ў Музеі Варшаўскага паўстання.

Адкрыты ў 2004 г. тагачасным мэрам Варшавы і пазнейшым прэзідэнтам Польшчы Лехам Качыньскім Музей Варшаўскага паўстання стаў флагманам сучаснай польскай гістарычнай палітыкі[9]. У перыяд камуністычнага рэжыму Варшаўскае паўстанне было найперш асуджана, яго ўдзельнікі рэпрэсаваныя, а потым пачалася палітыка замоўчвання.

Музей павінен быў пераламаць гэтую традыцыю і праз 60 гадоў ушанаваць як паўстанцаў, так і шырока трактаваную ідэю польскага змагання за незалежнасць з яе традыцыямі XIX ст. і польскім рэспубліканізмам. У музеі дзейнічае Архіў вуснай гісторыі, які ўтрымлівае каля 2 700 аўдыё- і відэаўспамінаў удзельнікаў паўстання. Яны выкарыстоўваюцца ў пастаяннай экспазіцыі і ў часовых выставах. Іх можна пачуць і ўбачыць у чытальні музея і на яго сайце.

Супрацоўнікі музея і валанцёры вырашалі задачу захаваць памяць пра Варшаўскае паўстанне, пакуль не адышло пакаленне, якое брала ў ім удзел: *"Нам хочацца, каб сабраныя такім чынам сведчанні былі нашай данінай памяці яшчэ жывому пакаленню жаўнераў Паўстання, а таксама іх сябрам па зброі, якія ўжо адышлі"*[10].

Гэтая задача спалучалася з імкненнем дакументавання і перадачы гістарычных фактаў: *"Мэта Архіва вуснай гісторыі – найбольш дакладны пераказ успамінаў сведак Паўстання. Запісаныя ўспаміны, размешчаныя на сайце музея, амаль не папраўляліся. Яны прэзентуюць не аб'ектыўную гістарычную нарацыю, а суб'ектыўныя сведчанні ўдзельнікаў падзеяў 1944 г. У такой форме яны былі запісаныя, і менавіта ў такой форме сталі архіўным матэрыялам. Прыкладам такой неаб'ектыўнай нарацыі з'яўляюцца даволі частыя згадкі ва ўспамінах паўстанцаў украінцаў, якім прыпісваюцца масавыя забойствы і рабункі цывільнага насельніцтва падчас Варшаўскага паўстання. Пашыраная практыка называць "украінцамі" прадстаўнікоў усіх нацый, якія размаўлялі па-расейску, а ваявалі на баку немцаў, выклікае шмат непаразуменняў. На шчасце, шматлікія навуковыя публікацыі на гэтую тэму цалкам вырашылі праблему"*[11].

Усе апрацаваныя інтэрв'ю даступныя анлайн у поўнай версіі ў пісьмовай форме, іх мова адрэдагаваная. Зборы Архіва павінны служыць гістарычным даследаванням і адукацыйным мэтам. Яны трактуюцца як "гістарычныя крыніцы" з усімі належнымі атрыбутамі. Наратар – гэта "сведка гісторыі", што распавядае на тэму гістарычных падзеяў, г. зн. паведамляе пра факты з

галіны палітычнай гісторыі. Адпаведна, найважнейшым з'яўляецца змест тэкстаў, якія патрабуюць ад карыстальніка пэўных навыкаў гісторыка, менавіта ўменне крытычна ацаніць іх верагоднасць. Такім чынам, гісторыі, якія распавялі наратары, прэзентуюць мінулае і ствараюць веды пра яго паводле прынцыпаў класічнай гістарыяграфіі.

Фрагменты ўспамінаў выкарыстоўваюцца ў пастаяннай экспазіцыі Музея Варшаўскага паўстання, у раздзеле "Патэлефануй да сведкі". У прасторы, аформленай паводле ўзору даваенных публічных тэлефонаў, можна зняць тэлефонную слухаўку і пачуць запіс успамінаў абраных паўстанцаў. Іх вялізныя партрэты вісяць на сцяне над тэлефонамі. У музейнай экспазіцыі, перапоўненай сучаснымі сродкамі інфармацыі, паведамленні Архіва вуснай гісторыі выкарыстоўваюцца ў некалькіх месцах, але гэтая частка з тэлефонамі, на мой погляд, найбольш важная. Менавіта тут пачатак экспазіцыі. Такім чынам, гісторыя Варшаўскага паўстання пачынаецца з памяці яго ўдзельнікаў. Як мне падаецца, рэалізм мастацкага вырашэння гэтага раздзела экспазіцыі перадае ідэю *oral history* так, як яе разумеюць стваральнікі музея, менавіта як "адкрывальніка" доступу да ведаў пра мінулае.

Музей Варшаўскага паўстання, які лічыцца найлепшым польскім музеем, найбольш сучасным і найбольш папулярным, з'яўляецца інстытутам, які функцыянуе ў публічнай прасторы як фізічная з'ява. Яго дзейнасць выходзіць за сцены будынка.

Праект "Віртуальны музей" – гэта захапляючы анлайн-праект, які з дапамогай анімацыі 3D дакладна перадае інтэр'ер і экспанаты Музея Варшаўскага паўстання. Можна нават сцвярджаць, што віртуальная экспазіцыя мае перавагі над рэальнай. Наведвальніка вядзе голас экскурсавода, адсутнічаюць часавыя абмежаванні, нават самыя дробныя дэталі не застаюцца па-за ўвагай, дзякуючы спісу экспанатаў і магчымасці паглядзець іх зблізку. Усе мультымедыйныя матэрыялы – фільмы, аўдыёзапісы, фотаздымкі – можна праглядзець па жаданні, не чакаючы ў чарзе наведвальнікаў. Таксама можна "патэлефанаваць" у паўстанне і пачуць ягоныя гісторыі. Апроч копіі экспазіцыі, у Віртуальным музеі знаходзяцца ўспаміны з Архіва вуснай гісторыі разам з фрагментамі відэазапісаў гэтых інтэрв'ю.

PR-кампанія, якую ўмела вядзе Музей Варшаўскага паўстання ў "традыцыйных" сродках масавай інфармацыі, г. зн. на тэлебачанні, радыё і ў друку, прычынілася да таго, што гэты інстытут аказвае вялікі ўплыў на грамадскае меркаванне. Чарговыя гадавіны выбуху паўстання суправаджаюцца трансляцыямі ў электронных сродках масавай інфармацыі, выпускам дакументальных фільмаў, пленэрамі ў Варшаве, канцэртамі, рэканструкцыямі

бітваў, якія можна ўбачыць на экранах тэлевізараў. Папулярызуецца сайт "Віртуальны музей", падкрэсліваецца факт, што экспазіцыя Музея Варшаўскага паўстання з'яўляецца найбольш сучаснай мультымедыйнай у Польшчы і аднОй з найлепшых у Цэнтральнай Еўропе. Таксама часта згадваюцца "сведкі гісторыі" і метад *oral history*. На мой погляд, якраз дзякуючы Музею Варшаўскага паўстання *oral history* пачала існаваць у свядомасці шырокіх колаў грамадскасці як паўнапраўная галіна гістарычнага пазнання.

У той жа час палітычны профіль Музея прэзентуе кансерватыўную плынь, "рэспубліканскі" накірунак. Ягоны дырэктар Ян Алдакоўскі (Jan Ołdakowski) да 2011 г. быў дэпутам Сейма ад партыі "Права і справядлівасць". У выніку сёння *oral history* асацыіруецца з *restoration of memory,* дзеяннямі па вяртанні *"сапраўднага твару польскай гісторыі"* і праграмай *"польскай гістарычнай палітыкі"*, падрыхтаванай інтэлектуаламі з асяроддзя Цэнтра кансерватыўнай думкі[12].

*Oral history* ад пачатку набыла папулярнасць сярод гісторыкаў-аматараў, моладзі, настаўнікаў і дзеячаў культуры. Так было на Захадзе, але тое ж мы назіраем у Польшчы. Вось толькі маштаб гэтай папулярнасці працяглы час ніяк не ўплываў на акадэмічную кар'еру вуснай гісторыі. А, можа, нават ёй шкодзіў! Галоўнай праблемай было і застаецца грунтоўнае, свядомае і метадалагічна абгрунтаванае выкарыстанне вусных сведчанняў у навуковых мэтах. Колькі ж праектаў *oral history* закончылася на этапе збору інтэрв'ю? Гэта найбольш прыемная частка працы. Складанасці ўзнікаюць тады, калі спрабуем стварыць нешта больш значнае, чым калаж выказванняў або набор эфектных цытатаў для публікацыі.

У адказ на крытыку, што *oral history* з'яўляецца толькі бяздумным, масавым калекцыянаваннем успамінаў, а таксама ў сувязі з лінгвістычным паваротам 80-х гг. мінулага стагоддзя ў вуснай гісторыі аформіўся новы накірунак, ключавым для якога стала паняцце "наратар". Адным з шляхоў пранікнення гэтага тэрміна ў гісторыю, апроч агульнай тэндэнцыі згаданага лінгвістычнага павароту, была якасная сацыялогія, а разам з ёй і біяграфічны метад. Апошні выкарыстоўвае самыя розныя тэхнікі збору матэрыялу і яго аналізу. Гаворка ідзе пра аўтабіяграфію, гісторыю жыцця, даследаванні жыццёвых цыклаў, розныя тыпы інтэрв'ю на чале з нарацыйным інтэрв'ю.

Для развіцця біяграфічнага метаду вялізнае значэнне меў постмадэрнісцкі эпістэмалагічны крызіс. У класічнай метадалогіі аўтабіяграфічная аповесць – вусная або напісаная – трактавалася як непасрэдная крыніца ведаў пра чыёсьці жыццё[13]. Норман Дэнзін (Norman Denzin), адзін са стваральнікаў сучаснай канцэпцыі біяграфічнага метаду і адвакат постмадэрнізму, пісаў пра

непразрыстасць мовы і няздольнасць зразумець жыццё наратара, але адначасова прызнаваў, што цэнтральным пунктам біяграфічнага метаду з'яўляецца існаванне рэальнай асобы, якая мае эмоцыі і выклікае эмоцыі ў іншых людзей, жыве "аўтэнтычна"[14].

Эпістэмалагічная дыскусія паспрыяла дапрацоўцы біяграфічнага метаду ў выглядзе прапановы Фрыца Шутцэ (Fritz Schütze), якая з пункту гледжання тэарэтычна-метадалагічнага спалучае ў сабе традыцыі сімвалічнага інтэракцыянізму, фенаменалогіі і сацыяльнай этнаметадалогіі з герменеўтычна-лінгвістычнымі прынцыпамі аналізу матэрыялаў. Акадэмічная версія *oral history* знаходзіцца пад моцным уплывам гэтай метадалогіі[15].

Цікава і, на мой погляд, характэрна для вуснай гісторыі ў Польшчы, што паводле метаду Ф. Шутцэ таксама працуюць дасведчаныя дакументалісты Дома сустрэчаў з гісторыяй (Цэнтр „Karta"), якія парадаксальным чынам спалучаюць наменклатуры "сведкі гісторыі" і "наратара", а разам з тым і цалкам розныя эпістэмалагічныя пазіцыі.

*Oral history* становіцца ўсё больш папулярнай у Польшчы, але гэты працэс не суправаджаецца амбітнай і паважнай рэфлексіяй над яе будучыняй. Што яшчэ, апроч назапашвання ўспамінаў "сведкаў гісторыі" і іх выкарыстання ў якасці ілюстрацый у выставах і фільмах? Што яшчэ, апроч дэкларацый пра стварэнне архіваў для будучых пакаленняў гісторыкаў? Ніхто не задумваецца над іх формай і пераказам. Нас цешыць сам факт масавасці. Гісторыкі, якія працуюць у парадыгме пазітывізму, захопленыя тэматыкай і маральнай вагою ўспамінаў "сведкаў гісторыі", не бачаць, што яны ствараюць крыніцы, якія дапасоўваюць да ўласнага разумення мінулага і канструююць паводле ўласных прынцыпаў. Магчыма, будучыя пакаленні гісторыкаў будуць карыстацца гэтымі крыніцамі, але ў іншых мэтах, чым падаецца сёння, менавіта каб зразумець дамінуючы ў Польшчы XXI ст. дыскурс пра мінулае...

## *Заўвагі*

1 Тэкст з'яўляецца скарочанай і адаптаванай версіяй артыкула Ajaloo tunnistaja ehk Poola suulise ajaloo spetsiifikast, "MT: Mäetagused" (Estonian), 2014, vol. 56.

2 Kersten K. Historyk – twórcą źródeł // Kwartalnik Historyczny, 1971, t. LXXVIII, nr 2. S. 318.

3 Kurkowska-Budzan M. Historia zwykłych ludzi. Współczesna angielska historiografia dziejów społecznych. Kraków: "Historia Iagiellonica", 2003.

4 Holzer J. Oral History in Poland // BIOS - Zeitschrift für Biographieforschung und Oral History. 1990; Kałwa D. Historia mówiona w krajach postkomunistycznych. Rekonesans // Historia i Kultura, 18/2010.

[5] Kałwa D. Historia mówiona w krajach postkomunistycznych. Rekonesans // Historia i Kultura, 18/2010.

[6] Frisch M. A Shared Authority. Essays on Craft and Meaning of Oral and Public History. Albany, New York: State University of New York Press, 1990. S. 187.

[7] Markowski A. (ed). Nowy słownik poprawnej polszczyzny PWN. Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 1999. S. 1024.

[8] http://swiadkowiehistorii.pl/relacje.php. Рэжым доступу: 16.11.2015

[9] Kostro R., Merta T. (ed.) Pamięć i odpowiedzialność. Kraków, Wrocław: Ośrodek Myśli Politycznej-Centrum Konserwatywne, 2005.

[10] http://www.1944.pl/historia/archiwum_historii_mowionej/. Рэжым доступу: 16.11.2015

[11] Ibidem.

[12] Kostro R., Merta T. (ed.) Pamięć i odpowiedzialność. Kraków, Wrocław: Ośrodek Myśli Politycznej-Centrum Konserwatywne, 2005.

[13] Blumer H. Interakcjonizm symboliczny. Perspektywa i metoda. Kraków: Zakład Wydawniczy "Nomos", 2007.

[14] Denzin Norman K. Interpretive Biography. London: Sage Publications, 1989.

[15] Kaźmierska K. Doświadczenia wojenne Polaków a kształtowanie tożsamości etnicznej. Analiza narracji kresowych. Warszawa: IFiS PAN, 1999; Kaźmierska K. Wywiad narracyjny jako jedna z metod w badaniach biograficznych // Przegląd Socjologiczny, 2004, nr 1. S. 71–96; Rokuszewska-Pawełek A. Chaos i przymus. Trajektorie wojenne Polaków – analiza biograficzna. Łódź: Wydawnictwo Uniwersytetu Łódzkiego, 2002.